**ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 3-й старонцы**


*Свабода, роўнасць, братэрства!*

# Беларускі УСХОД

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

● Заснавана ў 1991 годзе ● № 41 (174) ● Чацвер, 15 лістапада 2001 г. У розніцу кошт свабодны




*Ордэнаносец, ветэран ВАВ і працы, пенсіянер-настаўнік з вёскі Зарубец Крычаўскага раёну Васіль Восіпавіч Прусаў.*
ФОТА Валерыя БЫСАВА.

## Бабруйск — радзіма прыгажосці?

Пераможцай у конкурсе «METROPOLITAN TOP MODFL BELARUS» стала Вольга Сідарэнка, 16-гадовая школьніца з Бабруйска. Апрача яе ў фінал выйшлі яе зямлячка Кацяр Панцюхіна, а таксама Каця Шынкарэнка з Гомеля, Наталля Барысава з Магілёва і Алеся Машарская з Полацку. Лепшая з беларускіх прыгажунь возьме ўдзел у Сусветным фінале «METROPOLITAN TOP MODEL» у Інданэзіі, на востраве Балі, астатнія фіналісткі атрымалі магчымасць прайсці навучанне мастацтву мадэлі ў Парыжы.

Прыгажосць беларусак ацэньвала міжнароднае журы пад кіраўніцтвам прэзідэнта агенцтва Метраполітан-Парыж Мішэля Леватона. У яго склад увайшлі генеральны дырэктар аддзялення МЕТРОПОЛІТАН у Беларусі Патрык Бурдон, дырэктар канала Fashion TV Адам Лясоўскі, кіраўнікі французскага Салона прыгажосці «Жак Дэсанж» Віктар і Аксана Мароз, дырэктар Нацыянальнай школы прыгажосці Наталля Траян, дырэктар буціка «Маленькі Парыж» Галіна Пашкоўская і фіналістка конкурса «Міс Глобал-1999» Святлана Ермаловіч. Як паказвае вопыт, удзел у гэтым конкурсе сапраўды адкрывае сусветныя перспектывы для беларускіх прыгажунь. Пераможца ў мінулагоднім конкурсе МЕТРОПОЛІТАН у Кітаі Марына Пруднікава, таксама наша суайчынніца, сёння працуе па кантракту з гэтым агенцтвам, жыве і вучыцца ў Парыжы. Сёлета масавы міжнародны «Касцінг» для патэнцыяльных беларускіх супермадэляў стаў магчымым, дзякуючы падтрымцы генеральнага спонсара акцыі — транспартнай кампаніі Intercars.

*Версіі*

## «КУРСК» УТАПІЛА АМЕРЫКАНСКАЯ ПАДЛОДКА «ТАЛЕДА»?

Найбольш верагоднай версіяй аварыі на АПЛ «Курск» з'яўляецца сутыкненне расійскай субмарыны з замежнай падводнай лодкай. Такую думку выказаў капітан першага рангу Міхаіл Валжэнскі ў інтэрв'ю газеце «Известия». Каперанг лічыць, што гэта была амерыканская «Таледа».

Акрамя таго, Валжэнскі адзначыў, што пасля трагедыі паведамлялася аб знойдзеных буях замежнай вытворчасці. Аднак аб тым, што іх так і не змаглі падняць, не паведамлялася. Адзначым, што капітан Валжэнскі — падводнік, ён прымаў удзел у выпрабаваннях АПЛ «Курск».

У сваю чаргу «Российская газета» паведамляе, што эксперты, якія абследавалі «Курск» у доку Раслякова, прыйшлі да заключэння, што ў корпусе «Курска» сапраўды ёсць прабоіна, якая з'явілася пры сутыкненні АПЛ з нейкім падводным аб'ектам.

Асноўная частка гэтай прабоіны прыпадае на першы адсек, які застаўся на дне Баранцава мора. Аднак аб тым, што сутыкненне адбылося, і менавіта з падводным аб'ектам, можна меркаваць па следу ў раёне пачатку другога адсека.

**Спартыўны анекдот**

ФУТБАЛІСТ:
— Не магу зразумець, як я не трапіў у вароты. Я такі злы, што гатовы ўдарыць сам сабе гэтай жа нагой!
ТРЭНЕР:
— Давай лепш я гэта зраблю. А то ты зноў прамахнешся.

# НАВІНЫ, ПАДЗЕІ, ФАКТЫ

## Прэмія імя славутага земляка

У Бялынічах па ініцыятыве райвыканкама заснавана прэмія і памятны медаль імя выдатнага беларускага мастака Вітольда Бялыніцкага-Бірулі.

Мяркуецца, што прэмія стане штогадовай. Яна будзе ўручацца жыхарам раёна за духоўнае і эстэтычнае выхаванне насельніцтва, асветніцкую дзейнасць, дасягненні ў творчым і грамадскім жыцці. Першыя лаўрэаты стануць вядомы падчас раённага злёту перадавікоў. Сума прэміі — 20 мінімальных заработных плат.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Кандыдат у пераможцы

У Клімавічах кандыдатам у пераможцы ў рэспубліканскім спаборніцтве ў зімова-стойлавы перыяд 2000-2001 гадоў сярод майстроў машыннага даення назвалі Валянціну Камісараву з племзавода «Ціманава». Яна спрацавала найлепш за ўсіх даярак раёна ў прайшоўшы перыяд: ад 34 кароў надаіла ў сярэднім па 1523 кг малака — на 168 кг больш, чым у папярэдні зімова-стойлавы перыяд. А валавы надой за мінулую зімоўку склаў 51,8 тоны, што адпавядае 112,6% да паказчыка папярэдняй зімоўкі.

**Іван ЛАПО.**

## А чыя гэта справа?

Вяскоўцы чакалі хлебнай машыны. З магазіна выйшаў нейкі раённы начальнік. Відаць — правяраючы. І да магазіншчыцы:

— Оля, вазьмі пэндзаль і зафарбуй чорныя палосы на сценах.

Тая ледзь не заплакала.

Я заўважыў таму начальніку:

— Гэта ж не Оліны абавязкі. Дзякуй ёй, што ветліва, культурна абслугоўвае жыхароў. Што ж, яна фарбаваць будзе, а мы чакаць, пакуль яна скончыць? А потым пакуль адмыецца? Вы ж паклапаціцеся наняць маляра...

А той начальнік моўчкі сеў у легкавушку і паехаў.

А сцены магазіна і па сённяшні дзень непрывабныя. Чыя ж гэта справа — пафарбаваць іх?

**Іван ЯСКЕВІЧ,**
**в. Гавяды, Шклоўскі р-н.**

## Дзеці малююць Чарнобыль

Гран-пры на конкурсе экалагічнага малюнка «Я люблю гэтую зямлю» ў Клімавічах атрымаў хутчэй не малюнак, а цэлы пано-плакат Сяргожы Буракова з Ціманаўскай СШ. Гэта перамога юнага мастака тым больш важкая, бо ў конкурсе бралі ўдзел вучні 17 гарадскіх і вясковых школ. І былі прадстаўлены работы дзяцей усіх узроставых груп.

Чарнобыльская тэматыка на гэтай выставе была шырока прадстаўлена. Малюнкі дзяцей папярэджвалі людзей сваімі подпісамі: «Апошняе папярэджанне чалавецтву», «Спыніцеся!»... і да т.п.

Дзіцячыя малюнкі сцвярджаюць, што Чарнобыльская бяда — побач з намі. Прысутнічае нябачная радыяцыя. Адсюль высноўа: людзі, будзьце пільнымі!

**Іван ЛАПО.**

## А цэны ўсё растуць!

З 31 кастрычніка 341 рубель каштуе адна хвіліна тэлефоннай размовы з расійскім абанентам. Ільготны тарыф на сувязь з Расіяй, які дзейнічае ў рабочыя дні тыдня з 21.00 да 9.00 гадзін раніцы, а таксама ў выхадныя і святочныя дні, складае 227 рублёў.

Звычайны тарыф на тэлефонную сувязь з Літвой, Латвіяй і Польшчай складае 416 рублёў за адну хвіліну, ільготны — 277 рублёў, з Германіяй — 396 рублёў і 264 рублі адпаведна, са Злучанымі Штатамі Амерыкі — 1224 і 612 рублёў. 205 рублёў каштуе адно слова ў звычайнай тэлеграме, накіраванай у Латвію, Літву і Эстонію, 251 рубель — у ЗША, 101 — у Расію і ва Украіну.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## «Валютчык»-мільянер зрабіў «узнос» у казну

Затрымалі непрацуючага грамадзяніна за парушэнне правілаў парадку правядзення валютных аперацый супрацоўнікі Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю ўпраўлення па Гомельскай вобласці. У «валютчыка» канфіскавана 2 мільёны беларускіх рублёў, 43 тысячы расійскіх, 1365 долараў ЗША і 2500 украінскіх грыўняў.

**Аляксандр ВАСІЛЬЕЎ.**

## Напад на каравул

У 377-м зенітна-ракетным палку каля чатырох гадзін раніцы невядомы ў масцы спрабаваў пранікнуць у каравульнае памяшканне. У змаганне супраць яго ўступіў начальнік каравула старшы лейтэнант Аляксей Гасюль, вытрымаўшы два ўдары электрычнага разраду электрашокера, які прымяніў супраць яго злачынца. Афіцэр зрабіў два папераджальныя стрэлы з пісталета, аднак гэта не спыніла нападаўшага, пасля чаго старшы лейтэнант Гасюль адкрыў агонь на паражэнне. Зламыснік быў паранены, але яму ўдалося схавацца ў лесапаласе. У хуткім часе злачынцу знайшлі за сто метраў ад месца здарэння без прыкмет жыцця. Ужо раніцай непадалёк знайшлі сумку з прыборам начнога бачання, нажом, кусачкамі і тытунём, які зламыснік, верагодна, рыхтаваўся выкарыстаць супраць сабак, а таксама адзенне. Супрацоўнікі пракуратуры, уважліва вывучыўшы ўсе акалічнасці, пацвердзілі правамернасць дзеянняў начальніка каравула і яго падначаленых, абазначыўшы, што граматныя і ўпэўненыя дзеянні афіцэра прадухілілі не толькі магчымае выкраданне зброі, але і пагрозу гібелі салдат.

**Прэс-служба Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.**

## Узброены рабаўнік «узяў хлеб»

З асабліва жорсткім рабаўніком, на жаль, давялося сутыкнуцца прадаўцу магазіна «Хлеб», што ў Чэрыкаве. Невядомы зайшоў у памяшканне магазіна а палове другой дня і адразу ж выцягнуў рэвальвер.

Пагражаючы жанчыне зброяй, злачынца пачаў збіваць яе, забраў у магазіне 86 тысяч рублёў, дзве бутэлькі гарэлкі і кінуўся наўцёкі.

Супрацоўнікі праваахоўных органаў, калі прадавец паведаміла аб здарэнні, хутка ўстанавілі асобу рабаўніка. Ім аказаўся калгаснік калгаса «Светлы», які быў раней судзімы за захоўванне наркотыкаў. А праз некалькі гадзін пасля абрабавання на вуліцы Ленінскай вышуковая група натыкнулася на падазраваемага. Апошні, калі супрацоўнікі міліцыі прапанавалі яму здацца, выхапіў рэвальвер і накіраваў яго ў бок праваахоўнікаў. Старшы ўчастковы інспектар, пасля папераджальнага, прыцэльным стрэлам параніў уцекача ў нагу. У затрыманага канфіскаваны стартавы рэвальвер і нарабаванае. Між іншым, прадавец магазіна з чэрапна-мазгавой траўмай змешчана ў бальніцу.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## У Ждановічах абакралі аташэ амерыканскага пасольства

У непрыемную сітуацыю трапіла аташэ пасольства ЗША ў Беларусі.

Як паведамілі БЕЛТА ва Ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС, дыпламат паведаміла міліцыі, што яе абакралі на тэрыторыі Гандлёвага дома «Ждановічы». Паводле яе слоў, з сумачкі ўкралі дыпламатычную акрэдытацыйную картку, вадзіцельскае пасведчанне, дакументы на аўтамабіль, крэдытную картку «Віза» і іншыя дакументы. Па гэтаму факту вядзецца следства.

**Ігар ХАДАСЕВІЧ.**

## Яўка з павіннай

Вялікі грэх узяў на душу каваль аднаго з прадпрыемстваў, жыхар пасёлка Бальшавік. Мабыць, усвядоміўшы ўвесь цяжар сваёй віны, ён не стаў замятаць сляды злачынства, а прайшоў у Паперняскі аддзел міліцыі, што ў Мінскім раёне, і даў паказанні.

Як высветлілася, мужчына загубіў два жыцці з рэўнасці. У склепе свайго дома раўнівец з паляўнічага ружжа застрэліў сваю жонку і суседа.

**Ігар ГРЫШЫН.**

